# Розныя вушы

Вушы, як вядома, бываюць розныя. Напрыклад, у слана яны вялі-і-зныя, нібы палотнішчы. Часам жартуюць: «Вушы, як у слана!», гэта значыць вялікія. У зайца таксама адметныя вушы — нібы антэны, каб лавіць усялякія гукі. Таму можна пачуць: «Стрыжэ вушамі, як заяц». Значыць, чалавек той баіцца штосьці прапусціць, хоча ўсё добра чуць.

Яно ж так з намі бывае: можам і слухаць нібыта ўважліва, бо сядзім ціха, а тым часам не вельмі добра чуем, бо думалі пра штосьці сваё. Атрымліваецца, што вушы нашы не працавалі, як належыць.

У Евангеллі Езус кажа: «Хто мае вушы, няхай слухае». Прычым некалькі разоў кажа так! Значыць, ёсць гэтая праблема, бо не кожны, хто мае вушы, слухае імі.

Пане Езу, вучы нас слухаць
бацькоў і настаўнікаў,
усіх, хто нам раіць добра.
Асабліва тады, калі
не вельмі падабаецца,
што нам кажуць і раяць.
Памажы нам выконваць тое,
каб засведчыць Табе, што
мы Цябе любім.

*Маленькі рыцар*
*Беззаганнай*



*Малюнак Ангеліны Пархімовіч, 13 гадоў.*

# Будзільнік на вакне

Мацвей любіць хадзіць на Рараты. Ён нават плача, калі прастудзіцца і мама не пусціць бегчы па марозе ў касцёл. На Рараты хлопчык любіць хадзіць, а падымацца раніцай з цёплай пасцелі — не. І як тут гэта прымірыць? Пачне мама будзіць, а ён праз сон: «Зараз, зараз» — і... спіць сабе далей. Мама пацягне за коўдру, а ён: «Устаю, ужо ўстаю» і... зноў спіць. Нібыта і чуе, але адначасна і не хоча чуць.

Таму аднойчы мама сказала: «Больш не буду стаяць над табой кожнага ранку! Ты ўжо трэццякласнік, можаш і сам падымацца, калі хочаш быць на Раратах». Мацвей паставіў будзільнік, а калі той зазваніў, цісkanуў на кнопку і зноў со-оладка так заснуў. Потым, падымаючыся, бо час быў ісці ў школу, хацеў заплакаць, але неяк трохі і сорамна стала: сам жа вінаваты.

Наступнага разу Мацвей паставіў будзільнік не пры ложку, а прыладзіў яго на падваконне — каб спрасоння не дацягнуцца да яго. І дапамагло! Будзільнік так разышоўся, так доўга дзілінькаў, што хлопчыкава цярпенне лопнула, як мыльны шарык. А калі ўжо саскочыш з ложка — які там сон! Мама тым часам ліхтарык падрыхтавала: хапай ды бяжы на Рараты!

*А. Барткевіч*



*Малюнак Ангеліны Сержан, 13 гадоў.*


*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 4 (62)/2013 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ,*
*220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,*
*мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2; **e-mail:** m.rycar@yandex.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 4 000 экз. Заказ № 8747.
Падпісана да друку 29.11.2013 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/0494165 ад 03.04.2009 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.

# Спеў анёлаў

У тую ноч, калі нарадзіўся Езус, анёлы спусціліся з неба і спявалі пры бэтлеемскім гроце. Ніколі раней тут не гучала гэткай чыстай і кранальнай мелодыі.

Аднак нямногія яе пачулі. Жыхары ваколіц пачулі адно лёгкі пошум — павярнуліся на другі бок і зноў заснулі. Бо трэба мець чулае сэрца, каб пачуць анёльскі спеў.

Але на беразе невялікай сажалкі тонкая трысцінка пачула яго. Яна пачала хістацца ў такт мелодыі і памахваць усімі сваімі маладымі валокнамі.

— Перастань! — буркнула старая трысціна. — У мяне разбаліцца галава! Перастань.

— Мы хочам спаць, а ты нам перашкаджаеш, — падтрымалі яе іншыя трысціны. Бо, аказваецца, не ўсе трысціны могуць пачуць цудоўны анёльскі спеў. Ды маладзенькая трысцінка і надалей была зачараваная цудоўнай гармоніяй, што сплывала з неба і трымцела ў паветры: «Хвала на вышынях Богу. А на зямлі спакой людзям добрай волі...».

Мінуў час. Маладая трысцінка ператварылася ў дарослую прыгажуню, але па-ранейшаму, калі дзьмуў вецер, яна калыхалася ў такт пачутай некалі анёльскай мелодыі.

Аднойчы малады пастух прыгнаў да сажалкі свой статак. Пакуль авечкі пілі чыстую ваду, ён агледзеўся і ягоную ўвагу прыцягнула маладая трысціна. Пастух даўно марыў зрабіць сабе новую дудку, бо старая ўжо кепска грала.

Хлопец зрэзаў трысціну нажом, пачысціў і паспрабаваў дзьмухнуць у яе. Гук, які падала дудка, здзівіў хлопца. Гэта быў вельмі чысты і прыгожы гук, які не мог не закрануць сэрца.



У той вечар пастух граў на дудцы і ўсё наваколле заслухалася ягонай мелодыяй. Нават агонь у вогнішчы перастаў трашчаць, а ягоныя языкі закалыхаліся ў такт надзвычай прыгожай мелодыі.

Ды і сам пастух быў моцна здзіўлены. Яму здавалася, што гэта не ён грае на дудцы, а сама дудка выдае з сябе прыўкрасную мелодыю, быццам самі валокны трысціны былі насычаныя гэтай мелодыяй.

Слухаючы яе, адзін стары пастух прашаптаў:

— Здаецца, я нібы чуў гэтую мелодыю шмат гадоў таму, у ваколіцах Бэтлеема...

Ды гэта была не адзіная загадка дзівоснай дудкі.

Аднойчы паміж пастухамі ўзнікла спрэчка, а потым і бойка. Гэтак яны хацелі вырашыць, хто мае права пасвіць свой статак на лепшых пашах. У ход пайшлі кійкі, а некаторыя рукі схапіліся нават за нажы.

Сам не ведаючы чаму, малады пастух у гэтыя хвіліны схапіўся за сваю дудку і пачаў граць.

Гук быў слабы, ціхі, але яго чамусьці пачулі ўсе. Пачулі, прыслухаліся, прыпыніліся і рукі, сціснутыя ў кулакі, нібы пад уплывам невядомай дагэтуль сілы выпрасталіся. Людзі запыніліся, агледзеліся, і ім чамусьці зусім расхацелася высвятляць адносіны на кулаках, бо жыццё і без таго досыць цяжкае.

З таго дня, калі толькі ўзнікала нейкая спрэчка ці бойка, хтосьці клікаў пастуха з дудкай і прасілі яго: «Зайграй ты на сваёй дудцы!».

І кожны раз пад гукі дудкі напружанне знікала, гнеўныя галасы лагаднелі, а злосць суцішвалася. Ледзяныя сэрцы ў гэткія хвіліны разаграваліся і на тварах з'яўляліся ўсмешкі.

Які ж лёс чакаў гэты дзівосны інструмент, што меў у сабе анёльскі спеў?..

Калі пастух пастарэў, ён перадаў дудку сыну і ў таго з'явілася слава арбітра.

Калі ж і арбітр памёр, дудка перайшла да ягонага сына, які ў сваю чаргу перадаў яе свайму сыну... І гэтак — доўгія і доўгія гады. Нарэшце адзін адважны ваяр купіў яе ў Святой Зямлі і прывёз у Еўропу як найдаражэйшую памятку ды беражліва паклаў на дно куфра.

Ішлі гады, дудка ляжала сабе ў патаемным месцы і старэла... Потым яна перайшла ў іншыя рукі, потым зноў у яе з'явіўся новы гаспадар. І ніхто ўжо



на ёй ніколі не граў... Але аднаго разу хлопчык па імені Гібі зазірнуў на дно дзедавай скрыні і запытаў:

— Дзеду, а чыя гэта старая дудка?

— Не ведаю, — закашляўся дзед, — мне яе даў бацька. А яму — ягоны бацька, прадзед, значыць...

Гібі прыклаў старэнькую дудку да вуснаў — яна азвалася ціхай, але такой прыгожай мелодыяй, што нават глухаваты дзядуля прыслухаўся ды крутнуў галавой: «Ты глядзі...»

Наступнай раніцы Гібі ўзяў дудку ў школу. Яна была пачарнелая і зусім не прыгожая — такой і перад сябрамі не пахвалішся. Настаўніца чамусьці прыпазнілася на ўрок, і Рычард з Маркам пачалі ў чарговы раз высвятляць адносіны. Яны яшчэ ўчора чагосьці не падзялілі, а сёння вось прыгадалі... У ход пайшлі кулакі, загрукацелі крэслы, перавярнулася парта. Гібі ж не любіў боек і ад няма чаго рабіць ён дастаў сваю дудку ды пачаў пацíху ў яе дзьмуць. У класе зрабілася раптам ціха-ціха, і нават Рычард з Маркам застылі з узнятымі рукамі, якія неўзабаве апусціліся. Рычард буркнуў: «Ладна, хопіць ужо нам», а Марк яму ў адказ: «Хопіць — дык хопіць». Дзяўчынка Міра гукнула:

— Але калі ты, Гібі, так навучыўся граць?

— Сам не ведаю, — адняў дудку ад вуснаў Гібі і зачырванеўся. — Але гэта зусім не складана. Я толькі лёгка ў яе дзьмухаў, а яна сама...

І нават настаўніца, якую ніхто не заўважыў, калі яна ўвайшла ў клас, таксама папрасіла:

— Пайграй яшчэ.

Гібі зайграў. Зноў усе слухалі цудоўную мелодыю, і на іх тварах расплываліся прыгожыя, лагодныя ўсмешкі.

Але яшчэ шчаслівейшым было сэрца маладой трысціны, якое захавалася праз гэтыя доўгія гады гэткім жа чыстым і добрым, якім яно было тады, калі ўпершыню адгукнулася на анёльскі спеў. Адгукнулася, паўтарыла ды зберагла ў сабе, не згубіла ніводнай ноты.

*Пераклала І. Ж.*
*Паводле кнігі Бруна Ферэра*
*«Przypowiesci i opowiadania», 2001.*





# Смаката і прыгажосць




Адвэнт у друйскай парафіі Святой Тройцы пачаўся Андрэйкамі. Як і ў многіх іншых парафіях. Але што не ўсюды на Андрэйках былі такія смачныя пончыкі, як у Друі, то гэта можна смела сцвярджаць.

Чаму, спытаеце? Бо пяклі іх самі дзеці! Бачыце, як па-заліхвацку яны завіхаюцца на кухні? Колькі тут спрыту? Ого! Пробашч парафіі, ксёндз Сяргей потым хваліўся, што даўно ўжо такой смакаты не еў.

Сярод юных парафіянаў шмат дзяцей з дзіцячага дому. У Адвэнце яны павіншавалі многіх хрысціянаў са святамі Божага Нараджэння. Дзеля гэтага была адмыслова надрукавана паштоўка, якую намаляваў браслаўчанін, мясцовы мастак Ян Рыдзіка.



Гэткую ж паштоўку атрымаў ад дзяцей і наш часопіс. Нас гэта вельмі ўзрадавала! Дзякуй вялікі! Мы таксама віншуем вас, дарагія дзеці, са святам Божага Нараджэння! Вясёлых Святаў! Няхай Езус будзе заўсёды вашым Добрым Сябрам!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

# Старонка ваўчанятаў



Прывітанне!

— Я — ваўчаня, завуць мяне Спрыт. Сёння мы распачынаем новую рубрыку, і будзем весці яе разам з хлопчыкам скаўтам, якога ў нас таксама называюць ваўчанём, як і ўсіх малодшых скаўтаў.

— Пачакай, ваўчаня Спрыт, я сам прадстаўлюся. Маё поўнае імя — ваўчаня Адважны. Чаму, запытаеце? Тлумачу.

Ваўчаня — гэта малады воўк. А паколькі старэйшых хлопцаў сярод скаўтаў называюць ваўкамі, то адпаведна малодшых — ваўчанятамі.

У далёкіх заходніх прэрыях Амерыкі індзейцы былі нацыяй разведчыкаў. Кожны мужчына племені быў вельмі добрым разведчыкам, таму існавала канкурэнцыя сярод маладых храбрацоў на званне лепшага разведчыка. Тыя, хто паказвалі сябе лепшымі, атрымлівалі мянушку «Воўк».



Былі «Шэры воўк», «Чорны воўк», «Чырвоны воўк», «Худы воўк»... «Воўк» — гэта ганаровае званне, якое азначала, што той, хто яго носіць, — вельмі добры разведчык.

У Паўднёвай Афрыцы (хоць людзі там зусім іншыя), таксама былі добрыя разведчыкі, і яны таксама называлі сваіх лепшых разведчыкаў ваўкамі.

Разведчык павінен быць адважным і моцным, бо ён часта рызыкуе жыццём, каб выканаць свой абавязак. Ён ведае, як знайсці патрэбны шлях у чужой краіне і днём, і ўначы, ён можа даць сабе рады ў любой сітуацыі: распаліць агонь, згатаваць ежу, ісці па слядах жывёлаў або людзей. Разведчык можа ўбачыць усё патрэбнае і сам пры гэтым застацца незаўважаным. Ён дапамагае жанчынам і дзецям і абавязкова падпарадкоўваецца загадам свайго начальніка.

У наступных нумарах мы раскажам і пакажам, як трэба выконваць розныя абавязкі ваўчанятаў. Напрыклад, як завязваць вузлы і распальваць вогнішча, як зрабіць камфортны лагер, як знайсці патрэбны шлях у чужой краіне, як падаць сігнал сваім прыяцелям, як рабіць добрыя ўчынкі для людзей і як дапамагчы іншаму ў няшчасным выпадку.

*Ваўчаня Спрыт і ваўчаня Адважны*

# Злучыце кропкі




Злучыце кропкі ад нумара 1 да нумара 15 і паглядзіце на прыгоды скаўтаў на прыродзе. Можна прыгожа размаляваць малюнак.

# ЗАКОНЫ

*У ваўчанятаў, а таксама ў зграі ёсць свае законы. Падрабязней пра іх мы пагаворым пазней, а пакуль што проста пералічам іх:*

**Законы зграі:**

1. Ваўчаня слухае старэйшага ваўка.
2. Ваўчаня не слухае сябе самога.

**Закон ваўчаняці:**

1. Ваўчаня думае ў першую чаргу пра іншых.
2. Ваўчаня трымае вочы і вушы адкрытымі.
3. Ваўчаня заўсёды чыстае.
4. Ваўчаня заўсёды гаворыць праўду.
5. Ваўчаня заўсёды вясёлае.

# *Будуем сонечны гадзіннік*

**Нам спатрэбяцца:**

- ліст белага кардона
- востры аловак
- нажніцы
- маркер
- паляна з мяккай зямлёй
- выдатны сонечны дзень!

**Што трэба зрабіць?**

1) Выразаць круг кардона дыяметрам 15 см.
2) З дапамогай дарослага пракалоць цэнтр кардона алоўкам.
3) Знайсці сонечнае месца і ўставіць аловак у глебу.
4) З дапамогай гадзінніка адсочваць лініі, каб пазначыць гадзіны.







# Старонка божых каровак



*Прывітанне, дарагія чытачы! Як бачыце, я – ваша равесніца. Завуць мяне божая кароўка Руплівіца. Я люблю прыроду, цікавыя гісторыі, а яшчэ я люблю сябраваць. Таму: давайце станем сябрамі! Месцам нашых сустрэчаў будзе вось гэтая старонка часопіса. Абяцаю, што разам нам будзе весела. Я ведаю шмат вясёлых гульняў, забаваў, конкурсаў і цікавых гісторый. Сёння я пачну расказваць вам адну з маіх самых любімых гісторый.*

## Прыгода божай кароўкі

Гэтая гісторыя адбылася ў Італіі ў часы Сярэднявечча. На пасевы сялянаў наляцела шкодная жамяра і пачала прагна знішчаць будучы ўраджай. Праз тое поле праходзіў святы Францішак, якому сяляне паскардзіліся на сваё гора. Францішку стала шкада працавітых людзей і ён пачаў думаць, як жа ім дапамагчы. Раптам ён сустрэў чырвоную кузурку і сказаў ёй:

— У сялянаў бяда, іх пасевы знішчаюць злыя і шкодныя насякомыя. Можа ты паляціш і дапаможаш добрым людзям?

Аднак чырвоная кузурка не мела аніякай ахвоты камусьці дапамагаць. Яна натапырыла свае вусікі і буркнула:

— Не, не палячу!

Тады святы Францішак расказаў ёй гісторыю пра Марыю, да якой прыляцеў Анёл і якому Яна адказала:

— Вось я — слуга Пана!

Сваёй гатоўнасцю служыць Марыя дапамагла выратаваць увесь свет.

*А вы, сябры, ведаеце, як ахвярнасць Марыі выратавала ўвесь свет? Калі не, то запытайце пра гэта ў сваіх бацькоў. А я наступным разам раскажу вам працяг гэтай гісторыі.*







# 20

| | СТУДЗЕНЬ | ЛЮТЫ | САКАВІК | КРАСАВІК | МАЙ | ЧЭРВЕНЬ | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Нд | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | Нд |
| Пн | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | Пн |
| Ат | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | Ат |
| Ср | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | Ср |
| Чц | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | Чц |
| Пт | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | Пт |
| Сб | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | Сб |



01.01 – Святой Багародзіцы Марыі; 06.01 – Аб'яўленне П
20.04 – Вялікдзень; 29.05 – Унебаўшэсце Пана; 08.06 –
19.06 – Цела і Крыві Хрыста; 29.06 – Святых Апоста
Панны Марыі; 01.11 – Усіх Святых; 30.11 – Перш
Найсвяцейшай Панны Марі









14

| | ЛІПЕНЬ | ЖНІВЕНЬ | ВЕРАСЕНЬ | КАСТРЫЧНІК | ЛІСТАПАД | СНЕЖАНЬ | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Нд | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | Нд |
| Пн | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | Пн |
| Ат | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | Ат |
| Ср | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | Ср |
| Чц | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | Чц |
| Пт | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | Пт |
| Сб | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | Сб |

Пана (Тры Каралі); 05.03 — Папялец; 19.03 — Святога Юзафа;
Спасланне Духа Святога; 15.06 — Найсвяцейшай Тройцы;
лаў Пятра і Паўла; 15.08 — Унебаўзяцце Найсвяцейшай
шая нядзеля Адвэнту; 08.12 — Беззаганнага Зачацця
ы; 25.12 — Нараджэнне Пана.





Людзі ладзяць самыя розныя падарункі на Божае Нараджэнне.
Ксёндз **Сяргей Сурыновіч** таксама зрабіў падарунак
для нашых чытачоў — пераклаў верш
Самуіла Маршака «Багаж». Чытайце! Радуйцеся!



Самуіл Маршак

# БАГАЖ



Пані здавала ў багаж
Канапу,
Футляр,
Саквояж,
Карціну,
Куфэрак,
Кардонку,
Малую ў дадатак балонку.



Выдалі пані на станцыі
Чатыры з пячаткай квітанцыі
Аб тым, што ўпісалі ў багаж:
Канапу,
Футляр,
Саквояж,
Карціну,
Куфэрак,
Кардонку,
Малую ў дадатак балонку.



Рэчы вязуць на перон,
Кладуць у адкрыты вагон
Гатова!
На месцы багаж:
Канапа,
Футляр,
Саквояж,
Карціна,
Куфэрак,
Кардонка,
Малая ў дадатак балонка.



Як толькі забрынькаў званок,
Шчанюк той з вагона ўцёк.

Зірнулі на станцыі Дно,
Згубілася месца адно.
Спалохана лічаць багаж:
Канапа,
Футляр,
Саквояж,
Карціна,
Куфэрак,
Кардонка,
Спадарства!
А дзе ж тут балонка?



Ды бачаць: ля колаў красун –
Вялізны кудлаты брахун.
Злавілі яго – і ў багаж,
Туды, дзе ляжаў саквояж,
Карціна,
Куфэрак,
Кардонка,
Дзе перш вандравала балонка.

Жытомір — апошні прыпынак,
Між важкіх пакункаў і скрынак
Вязуць на калясцы багаж:

Канапу,
Футляр,
Саквяж,
Карціну,
Куфэрак,
Кардонку
І цягнуць сабаку ўздагонку.



Сабака ж тут як зарычыць,
А панічка  як завішчыць:
Бандыты!
Укралі!
Ратунку!
Сабака не тога гатунку!

Шпурнула яна саквяж,
Нагой адпіхнула багаж:
Карціну,
Куфэрак,
Кардонку...
— Аддайце, бандыты, балонку!

Прабачце, маманя!
На станцыі, —
Чытайце ў багажнай квітанцыі —
Ад вас быў прыняты багаж:
Канапа,
Футляр,
Саквяж,
Карціна,
Куфэрак,
Кардонка,
Малая ў дадатак балонка...

Аднак на прасторах дарог
Сабака ўжо й вырасці мог.





*Малюнак Аляксандры Хамяковай, 13 гадоў..*

# НАШ СВЕТ ПРЫРОДЫ

Лебедзі – вельмі прыгожыя і загадкавыя птушкі. За імі можна назіраць гадзінамі. А калі ім яшчэ ўздумаецца застацца зімаваць у Беларусі, то іх трэба таксама і падкармліваць. Трэба быць гатовымі заўсёды прыйсці да гэтых птушак на дапамогу, бо самастойна ім будзе вельмі цяжка перазімаваць.



## І ты ў гэтым свеце



Сястра з братам Ганна і Андрэй Зібаравы з Паставаў мінулай зімою пасябравалі з белымі прыгажунамі.
А калі да іх у госці прыехала іх пляменніца з Рыгі Аліса, то ім ўсім хапіла і радасці, і клопату. Бо, як вядома, нават самы вялікі мароз-траскун не страшны, калі сябры гатовыя адзін да аднаго бегчы, каб дапамагчы.



Прыпавесці

# Конь і асёл



Аднойчы конь і асёл ішлі разам з базару. Асёл быў нагружаны вышэй галавы, а конь бег сабе ўлегцы. Прайшлі яны палову дарогі. Асёл прытаміўся, крэкча, ледзьве дыхае.

— Будзь сябрам, — папрасіў ён каня, — дапамажы мне. Вазьмі на сябе частку грузу.

Але конь і вухам не павёў.

Праз нейкі час асёл узмаліўся:

— Дапамажы! Няма ўжо сілы!

Конь толькі адвярнуўся ды фыркнуў.

Дарога пайшла пад гару. Асёл прастагнаў:

— Памажы!

— Ну, хай сабе, — згадзіўся конь, — ты нясі свой груз, а я буду побач ісці, крактаць і аддыхвацца.

Асёл зрабіў яшчэ некалькі крокаў і зняможана паваліўся на зямлю.

—Падымайся, падымайся, дарагі! — прасіў гаспадар, але асёл не меў сілы падняцца.

Тады гаспадар разгрузіў яго і ўвесь цяжар узваліў на каня.

Цяпер ужо асёл тупаў улегцы, а конь кракатаў, аддыхваўся і надрываўся за двух. А ўсё таму, што ў свой час конь не пачуў просьбы асла. Ды й гаспадар не прыслухоўваўся да стогнаў таго, каму было вельмі цяжка.

*З кнігі 100 хрысціянскіх прыпавесцяў «Аднойчы...», — Масква: Трыяда, 2012.*

*Малюнак Вольгі Важнік, 13 гадоў.*




# САМАЯ ВАЖНАЯ СУСТРЭЧА

## *Літургія слова*

**Слова Тваё – гэта праўда.**
(Ян 17, 17.)



У перакладзе з габрэйскай мовы слова «аллелюя» азначае «хваліце Пана». Таму, калі мы спяваем на Імшы «аллелюя», мы праслаўляем Езуса Хрыста. Не выпадкова гэты кароткі ўрачысты спеў праслаўлення гучыць перад Евангеллем.

Калі чытаецца Евангелле, мы сустракаемся з самім Езусам Хрыстом у Яго слове. Так Езус звяртаецца да кожнага з нас.



Дыякан альбо святар кажа:
**— Пан з вамі!**
Мы адказваем:
**— І з Духам тваім!**



Далей дыякан альбо святар абвяшчае:

**— Чытанне святога Евангелля паводле…** (называецца імя Евангеліста).

Мы адказваем:

**— Хвала Табе, Пане!**

Пры гэтым мы робім жэстам рукі тры маленькія знакі крыжа на ілбе, вуснах і на грудзях. Тым самым мы запрашаем Езуса Хрыста быць у нашым розуме, на вуснах і ў сэрцы.

Пасля таго, як прачытана Евангелле, дыякан альбо святар кажа:

**— Гэта слова Пана!**

Мы адказваем:

**— Хвала Табе, Хрыстэ!**

Так мы дзякуем Езусу за Яго слова, стараемся яго запамятаць, каб жыць ім.



# Гульні ❄ Загадкі

## ЗАГАДКІ З ЕВАНГЕЛЛЯ

Сябры! На гэты раз нашы загадкі будуць у форме віктарыны. Чакаем правільных адказаў!

- Што азначае слова «Евангелле»?
  - а) збор кніг
  - б) біяграфія Езуса
  - в) творы хрысціянаў
  - г) добрая вестка
- Колькі кніг складаюць Новы Запавет?
  - а) чатыры
  - б) дванаццаць
  - в) дваццаць сем
- Яна, сына Захарыі яшчэ называюць
  - а) Ян Філосаф
  - б) Ян Златавусны
  - в) Ян Хрысціцель
  - г) Ян Апостал
- Які Евангеліст расказаў пра звеставанне анёла Марыі?
  - а) Лука
  - б) Мацвей
  - в) Ян
  - г) Марк
- Хто першы абвясціў імя Езуса?
  - а) Марыя
  - б) Юзаф
  - в) анёл
- «Хвала на вышынях Богу...» Хто першы праспяваў гэты гімн хвалы Сыну Божаму?
  - а) Юзаф
  - б) пастушкі
  - в) мудрацы
  - г) анёлы

Адказы на
**«Загадкі з Евангелля», змешчаныя ў № 3 за 2013 г.**

Няўдзячныя; справядлівы вернік; нічога не прасіла; людзі так славілі Бога: «Вялікі прарок паўстаў сярод нас» і «Бог наведаў свой народ»; святарам, біскупам, сёстрам і братам законным; сляпыя пасля аздараўлення пайшлі за Езусам.

Узнагароды за правільныя адказы атрымаюць: сёстры **Таня і Іра Вышадка** з г.п.Падсвілле, што на Глыбоччыне, **Аляксей Томкавіч** з Вілейкі.

**Адказ на выкраслянку з № 3:** Перамога пад Лепанто.




## Смяшынкі-Весялінкі

**Ёсць лекар?**

У цягніку шмат пасажыраў, цесна, душна. Раптам хтосьці гукае:

— Ёсць лекар у вагоне?

— Ёсць! — гукнуў адзін пасажыр і пачаў працісквацца праз натоўп у другі канец вагона. Дабраўся нарэшце да таго, хто крычаў, а той пытае:

— Хвароба горла на шэсць літар?

# Крыжаванкі

## Будзь сведкам Езуса

Мы, хрысціяне, маем вялікі гонар і прывілей называцца дзецьмі Божымі, сябрамі Езуса. Пра гэта Ён сам сказаў у Евангеллі. Але мы таксама маем і адказнасць – заўсёды і ўсюды сведчыць пра Яго. Маці Тэрэза с Калькуты сама ўмела гэта рабіць і іншых таксама заахвочвала.

Калі ты злучыш кружочкі паводле нумерацыі, то прачытаеш вельмі важныя словы маці Тэрэзы. Дык што атрымалася?




## *Куды пайшла Святая Сям'я?*

Выберы правільны шлях праз лабірынт. На гэтым шляху ты сустрэнеш літары. Прачытай словы — і даведаешся, у якую краіну павёў сваю сям'ю святы Юзаф, каб злосны Ірад не знайшоў Дзіцятка Езуса.




2021

# Прыгоды ксяндза Лявона

## А ўчора з вячора...

Скончыліся Раракты. Ксёндз Лявон прысеў на крэсла ў сакрыстыі ды задумаўся, бо меў праблему, а як яе вырашыць — не ведаў. Міністрант Янак, падаючы руку на развітанне, праявіў смеласць ды запытаў, ці не захварэў ксёндз.

— Што ты, Яначка! — уздыхнуў ксёндз Лявон. — Якія хваробы ў Адвэнце?! Вось запрасілі ў раённы Дзіцячы дом прыехаць, расказаць ім пра свята, а я ніяк не прыдумаю, што і як ім казаць. Гэта ж не вам, разумнікам маім, расказваць, а тым, хто, можа, ніколі гэтага свята не святкаваў...

Хлопцам трэба было бегчы ў школу. Дык і пабеглі, а па дарозе маракавалі, чым ксяндзу Лявону дапамагчы. На развітанне Цімка гукнуў:

— А давайце і мы папросімся разам з ксяндзом пайсці.

Ідэя спадабалася не толькі Цімку, але і астатнім хлапцам. Ксёндз Лявон таксама, калі даведаўся, падтрымаў яе. І закіпела праца: бабулі пяклі пірагі ды пернікі, мамы дапамагалі рабіць маскарадныя касцюмы, таты знайшлі машыну.



На ўрачыстасць Божага Нараджэння вясёлая грамада калядоўшчыкаў разам з высокім ды статным святым Мікалаем заявіліся ў Дзіцячы дом. Ужо на ганку іх абляпілі ягоныя жыхары, і з розных бакоў панеслася:

— Гляньце! Мядзведзь!

— А во каза! Ого, яна яшчэ й бадзецца! Ай!

— Ой, а зайцы якія маленькія-я-я...

— А ты, дзядзя, дзед Мароз? — запытаў малы Андрэйка сярод гэтага гармідару, і ўсе раптам прыціхлі.

— Ды не, я святы Мікалай, — бадзёра гукнуў святы Мікалай голасам ксяндза Лявона.

— Ну а што ў тваёй торбе?

— А вось гэта мы паглядзім потым. А можа й пакаштуем чагосьці... Пасля таго, як паспяваем, патанцуем, пагамонім. Згодныя?

Бабуля Тэкля, апранутая пухнатым Снегавіком, змахнуўшы ну зусім няпрошаную слязіну, раптам голасна зацягнула:

*А ўчора з вячора-а-а...*

Мядзведзь, зайцы, козы, вослікі падхапілі:

*А ўчора з вячора*
*Засвяціла зора,*
*Засвяціла зора...*
*Зора засвяці-іла,* — падаў свой бас і святы Мікалай.

І ўсе разам гучна й радасна:

*Зора засвяціла*
*Ўвесь свет абудзіла-а-а...*

Дзеці тузалі «зайцоў» ды «мядзведзяў», цягнулі іх у дом і разам з імі голасна спявалі:

*Увесь свет абудзіла-а-а...*

Прыгоду запісала І. Ж.

*Таццяна і Ірына Вышадка,*
г. п. Падсвілле, Глыбоцкі р-н.

### Будслаўская святыня

Святыня будслаўская — адзіная ў свеце.
Пра гэта вядома дарослым і дзецям.
Таму кожны год у дождж і спякоту
прыходзім сюды са сваёю мальбою.

О Маці Будслаўская, Маці даверу!
Узглянь на нас вокам сваім міласэрным
і вымалі ў Сына свайго прабачэнне
для нас: Тваіх верных дзяцей і няверных.

Святыня ў Будславе — гонар народа.
Сюды мы імкнемся ў любую пагоду,
Ты шлі нам, Заступніца наша, заўсёды
надзею, любоў, прабачэнне і згоду.



*Ірына ТОПЧЫЙ,*
*14 гадоў, г. Рэчыца.*



*Алег ВАЛКОВІЧ,*
*11 гадоў,*
*в. Шары,*
*Вілейскі р-н.*

## Увага: конкурс «Мой Будслаў» завершаны



Сябры! Як мы і абяцалі, у апошнім нумары за гэты год мы падводзім вынікі конкурсу «Мой Будслаў». Нагадваем, што конкурс быў прысвечаны 400-годдзю з'яўлення абраза Маці Божай у будслаўскай святыні.

Дзякуем усім, хто прыняў у ім удзел. Мы атрымалі ад вас некалькі вершаў, апавяданняў. Найбольш было, як заўсёды, малюнкаў.

*Першае месца* за лепшы літаратурны твор прысуджана **Віталю Раманчуку** з Нясвіжа. *Другое месца* — **Дар'і Ермаковіч** з Будслава і сёстрам **Таццяне** і **Ірыне Вышадка** з Падсвілля.

*Лепшым малюнкам* прызнаны малюнак **Соф'і Волкавай** з Нарачы. *Другое месца сярод юных мастакоў* заняла **Караліна Дангель** з Нарачы, *трэцяе* — **Аляксандра Ракач** з Пінска.

Апрача таго, усе ўдзельнікі конкурсу атрымаюць памятныя дыпломы.

**Віншуем пераможцаў і ўсіх нашых удзельнікаў!**



У афармленні матэрыялаў нумара прымалі ўдзел юныя мастакі з ДУА «Гімназія-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка», (майстэрня Г. Хінкі-Янушкевіч).